ДЗІЦЯЧАЯ ГАЗЕТКА

# Несцерка



Будзь разам з намі!

№5(48)

8 траўня 2003 года

Падпісны індэкс: 63672

## Да Дня Перамогі

Герояў словам памяну —
Мой дзед сяржантам быў.
У авіяцыі ў вайну
Сумленна ён служыў.

Віншую з перамогай тых,
Хто мір абараняў,
Жыццё шчаслівае для ўсіх
Крывёй заваяваў.

А мы павінны зберагчы
Мір гэты на зямлі,
Каб дзеці нашы назаўжды
Шчаслівымі былі.

*Таня Камедзька, Магілёўская вобл., г. Горкі.*

## МЫШЫНА Ў БОТАХ

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, мая маці, не паспеўшы развітацца са сваімі сяброўкамі, разам з бацькамі і сёстрамі паехала ў эвакуацыю. Але з язджалі не куды вочы глядзяць, а ў адпаведнасці з ваенным становішчам на строга вызначанае месца жыхарства. Такім чынам, сям'я апынулася ў невялікім прыморскім горадзе Дэрбент.



Жыццё было цяжкім. Зіма 1941 года была надзвычай халоднай, панаваў голад. Ішла страшэнная, цяжкая і кровапралітная вайна. Бацькі працавалі з ранку да самых пацёмак. Вярталіся дамоў змораныя, з акрайцам хлеба, а калі-некалі і з невялікім кулёчкам печыва — самага лепшага ласунка ў той час.

Аднойчы раніцай, ў адзіны выхадны дзень за ўвесь час эвакуацыі, мой дзядуля збіраўся выйсці з дому за пакупкамі. Як звычайна, ён хутка накінуў на плечы плашч і пачаў нацягваць боты. Дзеці ўжо прачнуліся і з цікаўнасцю назіралі за бацькам, тым больш, што пры гэтым ён увесь час расказваў розныя забаўляльныя гісторыі і жартаваў. Раптам бацька закрычаў і пачаў хутка сцягваць адзін з ботаў. Усе вельмі перапужаліся, бо не ведалі, што здарылася. З абутку выскачыла маленькае жвавае мышаня. Эх, і пасмяяліся ж потым!

Гэтую гісторыю распавяла мая бабуля пасля таго, як я запытаўся: "Чаму гэта ўсе ў нашай сям'і перад тым, як надзець абутак, так моцна з яго нешта вытрасаюць?".

**P. S.** Калі нехта з вас ведае падобныя выпадкі з жыцця родных ці знаёмых, то раскажыце. Чакаем вашых лістоў.

***З павагай да ўсіх чытачоў "Несцеркі" дзядзя Валодзя.***

# МІР — цыганская сталіца



*Муляр моцныя муры*
*Склаў калісьці ў Міры,*
*І стаіць магутны замак*
*Аж да сёння на гары.*
***Сяржук Сокалаў-Воюш.***

Беларускае мястэчка Мір шырокую вядомасць у Еўропе і свеце набыло найперш сваім замкам — выдатным помнікам абарончага дойлідства XVI стагоддзя. Але за смугой часу ці не зусім забылася, што Мір быў і сапраўднай цыганскай сталіцай на ўсё Вялікае княства Літоўскае. Тут праводзіліся выбары караля ўсіх цыганоў, тут ён жыў, тут знаходзілася яго рэзідэнцыя.

Адкуль жа і як з'явіліся цыганы на Беларусі? Хоць іхняя гісторыя і ахінута намiткай таямнічасці і загадкавасці, аднак захаваліся звесткі, што гэтая старажытная індыйская каста была самай непаважанай і гнанай. Калі на пачатку XV стагоддзя іх хацелі змусіць да ісламу, цыганы ўцяклі з Індыі спачатку ў Аравію, пасля ў Егіпет, адтуль у Турцыю. А затым яны з'явіліся ў Малдавіі, Галіцыі, Польшчы. А з Польшчы ўжо трапілі і на беларускія землі. Тут прынялі іх сапраўды шчыра, нават гасцінна. Калі ў іншых краінах цыганоў цкавалі, даймалі непавагай, нават забівалі, то ў Вялікім княстве Літоўскім гэтага практычна не было. Хоць, вядома, гэтыя няўрымслівыя дзеці ветру не паводзілі сябе цішэй вады і ніжэй травы.

Самым першым дакументам, які пісьмова засведчыў побыт цыганоў на беларускіх землях, з'яўляецца прывілей вялікага князя Аляксандра Казіміравіча ад 25 мая 1501 года, які захоўваўся ў нясвіжскім архіве князёў Радзівілаў. Прывілей зацвярджае на пасадзе старшага войта, па-сучаснаму барона, Васіля і надае яму «моц і права судзіць цыганоў і разбіраць усялякія спрэчкі паміж імі. Войт Васіль і яго цыганы ва ўсіх землях нашых Вялікага княства Літоўскага і ў яго валасцях павінны мець поўную свабоду паводле даўных правоў, звычаяў і даўных княскіх лістоў». Спасылка на «даўныя правы» і «даўныя княскія лісты» сведчыць, што цыганы і да гэтага былі звязаны з беларускімі землямі і мелі тут добрае спрыянне. Яны не толькі вандравалі па дарогах Вялікага княства, часта чынячы шкоду гаспадарам коней, а і стала асядалі на працу.

Аднак з паловы XVI стагоддзя адносіны да гэтых вандроўнікаў змяніліся ў Польскім каралеўстве, што мела ўплыў і на канфедэратыўныя беларускія землі. Нават у Літоўскім Статуце з'явіўся запіс, паводле якога цыганы выганяліся з ВКЛ. Ды, відаць, і раней законы лацвей пісаліся, чым выконваліся. Таму ўжо ў наступным стагоддзі цыганы трапілі пад абарону беларускіх паноў. А самым спрыяльным сталася для іх XVIII стагоддзе. У гэты час яны стала атабарыліся і ў Міры, які належыў нясвіжскім Радзівілам. Княжыў тады Караль Станіслаў Радзівіл. Гэты дзівакаваты князь, празваны Пане Каханку, наладжваў у Міры шумныя балі, гулянкі, меў асаблівыя адносіны да цыганоў, захапляўся іхнімі звычаямі, падтрымліваў іх.

У знак асаблівай пачцівасці да чорнавалосых і смуглатварых дзяцей ветру ён увёў тытул цыганскага караля, надзяліў яго вялікімі правамі. Караля выбіралі з багатых і статных цыганоў на Мірскім полі. На гэты час сюды з'язджаліся табары з усяго Вялікага княства. Новавыбранага вярхоўнага кіраўніка тройчы з радаснымі воклічамі падымалі на руках угару, засыпалі рознымі падарункамі. Першацыган меў вялікую ўладу над сваімі суродзічамі, мог караць іх і міласаваць.

Калі ў Польшчы цыганскія кіраўнікі атрымлівалі пацвярджэнне сваёй улады з каралеўскай канцылярыі, то ў ВКЛ на пасаду іх узводзілі Радзівілы. Згодна з гэтай традыцыяй, Пане Каханку сваёй граматай ад 22 ліпеня 1778 года зацвердзіў каралём

**Працяг на ст. 3.**

*Пачатак на ст. 2.*

цыганоў у Міры мешчаніна Яна Марцінкевіча, які стаўся самай знанай і каларытнай асобай.

На манер свайго апекуна і дабрадзея Караля Радзівіла Ян Марцінкевіч любіў праявіць уладу, паказаць сваю каралеўскую мосць. Як сапраўдны кароль, ён збудаваў у Міры прыгожы палац, дзе вясёлае жыццё віравала нібы ў шатры. На шумныя цыганскія бяседы сюды прыязджалі знаныя польскія асобы, пашаноўныя госці, Радзівілы. За 12 гадоў кіравання Ян Марцінкевіч добра ўславіўся сваімі дзівацтвамі. Пры ім цыганская сталіца не раз звінела вясёлымі песнямі, шумела пышнымі святамі і відовішчамі. Як сведчыць беларускі гісторык Д. Даўгяла, апранаўся кароль модна, замест шаблі насіў бізун. «Калі трэба было яму ехаць, то звычайна ўперадзе ехалі дзесяць спевакоў з кіраўніком (паўкерам), які біў рэмнем па кацялках. За спевакамі ехаў сам кароль на добрым кані, вельмі хораша прыбраным.

Ззаду за ім — сем цыганоў у рознакаляровым убранні. За імі вялі некалькі троек парожніх коней. Затым, у старасвецкім рыдване, які быў вымаляваны ў пунсовы колер, ехала каралева на васьмёрцы коней».

Іншыя сцвярджаюць, што кароль любіў катацца ў пазалочанай карэце, запрэжанай дванаццаццю коньмі. Суправаджаў яе вялікі натоўп служылага люду, коннікі. Гэткую ж світу меў ён і пад час пешых праходак. А сустрэчныя цыганы мусілі ў пакорлівай схіленасці вітаць свайго Бацю Яна.

Але сярод цыганскіх іерархаў сустракаліся і больш жорсткія. У Лідскім павеце цыганы нават узбунтаваліся супраць тамашняга верхаводы Якуба Знамяроўскага: так дапёк ён сваім самадурствам. Было гэта напрыканцы XVIII стагоддзя. Гарачы і бунтоўны цыганскі народ запіхнуў Якуба ў мех, падвесіў да бэлькі ў хаце і добра выменціў — білі не шкадуючы. Адвёўшы душу, абдарылі першацыгана падарункамі і правялі дадому. Кажуць, на начальніка гэта паўплывала станоўча.

Марцінкевіч быў апошнім мірскім каралём. Пасля смерці Яна цыганскі трон атрымаў яго сын, які неўзабаве кінуў-рынуў усё набытае ў Міры і вольным ветрам разам са сваімі суродзічамі паляцеў у Турцыю. Тыя ж, што засталіся, стваралі свае суконныя, ткацкія і скураныя мануфактуры, якія славіліся на ўвесь край. Цыганскае палатно вылучалася добрай якасцю і носкасцю. У многіх міран доўга захоўвалася гэтае ткацтва. З яго нават шылі царкоўныя шаты. А пра не вельмі сумленных людзей хадзіла прымаўка: «Майстар з Міра, што цяў, то й дзіра». Багаты рыштунак з палаца Яна Марцінкевіча яшчэ на пачатку XX стагоддзя захоўваўся ў Мірскім замку.

З лёгкай рукі цыганоў Мір праславіўся шматлюднымі конскімі базарамі. Людзі тады казалі, што з-за коней і цыганоў свету божага не відаць. Часта купля-продаж абрастала такімі пацешнымі абставінамі, што нагадвала дзівосную забаву. Сапраўднымі майстрамі выявілі сябе аселыя цыганы ў гадоўлі мядзведзяў. Нават Радзівілы бралі ў іх вучняў для знакамітай Смаргонскай акадэміі, дзе гэтых дужых звяроў адмыслова вучылі розным штукарствам. Займаліся цыганы кавальствам, слясарнай справай, выразалі з дрэва. Яшчэ мо і сёння ў жыхароў Міра захоўваюцца іхнія драўляныя сальніцы, бочкі, дзежкі, міскі, дзіцячыя цацкі і іншыя вырабы.

Аднак, вядома, неад'емнай рысай цыганскага жыцця былі гандаль, карты, гаданні, песні, скокі. Калі часам у цыгана пыталіся: «Якой ты веры?», ён адказваў: «За грошы — якой хочаш, бацю!»

Пазней расійская імператрыца Кацярына Вялікая выдала ўказы, згодна з якімі цыганы мусілі прапісацца ў гарадах і адмовіцца ад вандровак. Шмат хто пайшоў тады ў купецтва, дасягнуў значных поспехаў. А большасць бедных і безмаёмных былі ператвораны ў казённых сялян.

Як зоркі і месяц, шапаткая цішыня і мурожны пах з'яўляюцца вызначальнымі прыкметамі сапраўднай летняй ночы, так кібітка, песня і шацёр дагэтуль служаць адметнымі асаблівасцямі сапраўднай цыганскай вольнасці. І калі пачуеце раптам прывольны і распеўны, гарачы і тэмпераментны цыганскі напеў, згадайце гэтых няўрымслівых адвечных падарожных, якіх здавён і надоўга лёс звязаў і з беларускай зямлёй.



# Французскія канікулы


Прывітанне з-пад нябёсаў.

У мяне ёсць сяброўка. Гэта мая настаўніца Таццяна Касцюкевіч. Аднойчы яна паказала мне свой фотаальбом. Так я даведалася пра яе французскія канікулы. Мне было цікава слухаць расповед сяброўкі, а вам, спадзяюся, будзе цікава прачытаць.

*— Падарожжа ў Францыю — гэта мара ці выпадак?*

— Я заўсёды любіла падарожнічаць. І калі я вучылася на трэцім курсе інстытута, мае бацькі прапанавлі мне гэтую паездку. Яны сказалі, што мову трэба ўдасканальваць, а рабіць гэта лепш, зразумела, у Францыі. Вось так, разам са сваёй малодшай сястрой я апынулася ў міжнародным студэнцкім лагеры, у вёсцы Барэж.

*— Калі гэта лагер, значыцца вы адпачывалі з нейкай групай. Хто быў разам з вамі?*

— Гэта былі студэнты з розных краін: Румыніі, Чэхіі, ЗША, Германіі, Расіі і, зразумела, Францыі.


Бясконцы паток.

*— Як жа вы размаўлялі, ці разумелі адзін аднаго?*

— Амаль для ўсіх галоўнай мэтай паездкі было вывучэнне французкай мовы. Таму ўсе імкнуліся размаўляць менавіта на ёй. Але час ад часу прыходзілася звяртацца і да англійскай. У лагеры мы былі два тыдні. Трэба сказаць, што гэта была добрая моўная практыка. Ва ўсякім выпадку, у апошнія дні мы ўжо добра маглі задаваць адзін аднаму розныя пытанні. А вось зразумець адказ суразмоўніка незаўсёды атрымлівалася. Але мы да гэтага ставіліся з гумарам і цярпліва разбіралі кожнае слова. Вось так і вучыліся.

Вёска пад аблокамі.

*— Збіраючыся ў паездку, вы ведалі, што лагер знаходзіцца ў Пірэнеях?*

— Нас быццам папярэдзілі, што вёска знаходзіцца ў гарах, што абавязкова трэба ўзяць з сабою цёплае адзенне. Але, шчыра кажучы, тады мы яшчэ не ўяўлялі сабе, дзе апынемся і якія ўражанні атрымаем.

*— Так, так, дужа цікава даведацца аб вашых уражаннях.*

— Пра гэта калісьці добра сказаў Уладзімір Высоцкі: “Лучше гор могут быть только горы, на каких я ещё не бывал ...”. Я з ім цалкам згодна. Прырода ашаламляе сваёй прыгажосцю. Распавядаць пра гэта цяжка. Трэба самому ўсё пабачыць, каб зразумець мае пачуцці. Вось толькі ўявіце сабе: я стаю на вышыні больш за дзве тысячы метраў, і мае ногі хаваюцца ў аблоках. А якія ж прыгожыя горныя азёры! Я іх пабачыла шмат: і вялікіх, і маленькіх.

**Працяг на ст. 5.**

Пачатак на ст. 4.

Вада ў іх блакітная-блакітная. Здавалася, што гэта кавалачак неба зваліўся аднекуль зверху і ляжыць паміж камянёў і травы. А яшчэ вада дужа сцюдзёная і празрыстая, таму кожную ракавінку, травінку, нават пясчынку можна добра разгледзець. Аднойчы я захацела дастаць з возера прыгожую ракавінку. Мне здавалася, што яна ляжыць на маленькай глыбіні, толькі руку працягні. Але мне растлумачылі, што зрок мяне падманвае. На самой справе, там было не меней двух метраў. Зараз я ведаю, што значыць крыштальна-празрыстая вада.



*Блакітны крышталь возера.*

*— А ці можна нам даведацца, як адпачываюць звычайныя французы?*

— Па-рознаму. Але я заўважыла, што дзеці і іх бацькі вольны час любяць бавіць разам, дакладней, у адным месцы. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца бары (уяўляю сабе, што зараз могуць падумаць чытачы). У гэтых барах занятак знаходзіцца ўсім: і дарослым, і дзецям. Дарослыя, як правіла, чытаюць газеты, якія ў вялікай колькасці ляжаць на століках, ці за кубачкам кавы або гарбаты вядуць нейкія размовы. А дзеці тым часам забаўляюцца на гульнёвых аўтаматах, слухаюць музыку ці глядзяць тэлевізар.



*Сосны над аблокамі.*

Вельмі папулярна цэлымі сем'ямі наведваць лазню. Але, зноў-такі, такая лазня больш нагадвае нейкі спартыўны комплекс з саўнай, трэнажорнымі заламі, пакоямі адпачынку і гульняў, а таксама барам, дзе можна падсілкавацца і выпіць смачнага ліманаду.

Пра адпачынак у гарах нават і казаць не трэба. Зразумела, што мясцовыя жыхары ганарацца той прыгажосцю, сярод якой яны жывуць, і з вялікім задавальненнем знаёмяць з ёй турыстаў. Яшчэ хочацца адзначыць іх клапатлівасць: гэтыя людзі апраналі нас, як маленькіх дзетак. І недарэмна. Я раней і не ведала, якое каварнае надвор'е можа быць у горнай мясцовасці. Вось зараз сонейка пячэ, а праз некалькі хвілін ледзяны вецер з ног збівае. І каб не мае новыя французскія сябры, я магла б і змерзнуць у гарах.



*Вадаспад Гаварні (422 м).*

*— А як адпачывае моладзь?*

— Кіно, інтэрнэт-кафэ, дыскатэкі. І хачу нагадаць паважаным чытачам, што я распавядаю пра звычайную французскую вёску. Шчыра кажучы, было крыху зайдрасна.

*— Аб сумным не будзем. На развітанне, калі ласка, некалькі слоў для нашых чытачоў.*

— Калісьці ў дзяцінстве мне праснілася, што я гуляла па Парыжу... Дык вось, няхай усім сняцца прыгожыя каляровыя сны, якія потым абавязкова здзяйсняюцца.

**Маша Каралькова,**
**г. Горкі, Магілёўская вобл.**

## БАБРЫ

*Птушкі ведаюць і звяры,*
*Што бабры заўжды майстры,*
*Без пілы і без сякеры*
*Робяць гаці, як масты.*

*І будуюць сабе хаткі,*
*Каб не стыць у халады.*
*І бабры і бабраняткі*
*Валяць дрэвы ля вады.*

*Зубы вострыя, як трэба,*
*Не знайсці вастрэй нідзе.*
*Толькі трэскі аж да неба,*
*Толькі хвалі на вадзе.*

*І глядзіць з нябёсаў Сонца,*
*За будоўляй ля ракі,*
*Як працуюць дзень бясконца*
*Тут бабры-працаўнікі.*

## КНІЖКА

*Разгарну старонкі кніжкі,*
*Там цікавага ёсць шмат:*
*Пра мядзведзя і пра шышкі,*
*Пра казу і казлянят...*

*І, вядома, як заўсёды —*
*Чары, злосць і дабрыня...*
*Казак розныя прыгоды*
*Адбываюцца штодня.*

*Папялушку прынц шукае,*
*І прынцэса ажыве...*
*Герда выратуе Кая —*
*Гэта ўсе сябры мае.*

*Шэры воўк і Бураціна,*
*Мне нясуць свой запавет.*
*У казцы дзіўнай Чыпаліна*
*Дорыць свой чароўны свет.*

## САМАКАТ

*Лета — гучнае багацце,*
*Каб пад сонейкам расці.*
*Папрашу дазволу ў маці:*
*— Калі ласка, адпусці,*

*Бо наскучыла мне ў хаце,*
*Калі сонца за акном...*
*Лепш ганяць на самакаце*
*За вятрыскай-свістуном*

*Па нагрэтаму асфальце.*
*Паспяшайцеся за мной!*
*Я лячу на самакаце,*
*Нібы крылы за спіной.*

*Толькі ўсё ж на самакаце*
*Не паспець ніяк услед*
*За маёй сяброўкай Кацяй,*
*Бо ў яе веласіпед!*

**Вершы Алега Сорына, г. Чэрыкаў, Магілёўская вобл.**

# Малодшы брацік

*У мяне ёсць брацік. Яго імя — Сярожка. Ён вучыцца ў другім класе. Сярожку дзевяць годзікаў. Ён маленькі ды ўдаленькі. Адзнакі ў Сярожкі — толькі чацвёркі і пяцёркі. Я яго вельмі люблю, таму што ён мой малодшы брат. Нас з ім не разліць вадой. Нашы галасы час ад часу блытаюць па тэлефоне. Пачынаюць казаць, а гэта не той, хто патрэбен. Тады мы з Сярогай завём адзін другога і не крыўдзімся.*

*Летам мы з ім гуляем на вуліцы ў мяч, са скакалкай, катаемся на веласіпедзе па чарзе. Зімой мы таксама гуляем у розныя гульні.*

**Лена Рындэвіч, , г. Горкі, Магілёўская вобл.**

# Мой дзядуля

Мой дзядуля працуе егерам у вялікім лесе. Аднойчы ён узяў туды і мяне. Чаго толькі я не пабачыў, пакуль аб'язджалі лес! Сустрэў аленяў і дзікоў, хаткі баброў, кармушкі для звяроў і пляцоўкі кармлення лясных птушак — цецерукоў, глушцоў і рабчыкаў. Мне вельмі спадабалася праца егера!

***Раман Клімянкоў, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# Памяць дрэў

Людзі нядоўга жывуць на зямлі. Кожны павінен пакінуць пасля сябе нейкую спадчыну. Вось мой дзядуля пакінуў цудоўнае дрэва...

Гэтай бярозе амаль дванаццаць гадоў. Аднойчы з ёй здарылася дрэнная гісторыя. Суседскія хлопчыкі прыйшлі да нашага двара і пачалі лазіць па дрэву. І раптам адзін сук зламаўся. Хлопчыкі спужаліся і пабеглі дадому. Калі я выйшла з хаты, то ўбачыла, што па бярозе цякуць слёзы. Я пабегла за дзядулем. Ён выйшаў, паглядзеў на дрэва і нешта з ім зрабіў. Яно зноў стала вельмі прыгожым. Зараз гэта бяроза стала памяццю аб нашым дзядулі, сапраўднай легендай аб ім.

***Юля Вароніна, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# ГАЛУБЫ

*Надышла вясна. І мама стала часцей адчыняць балконныя дзверы, каб праветрыць пакоі ў кватэры. Аднойчы я заўважыў, як з аднаго і таго ж месца на балконе вылятае голуб. Ён заўсёды пужаўся, калі там хтосьці з'яўляўся, і адразу ляцеў на дах дома. Так доўжылася прыкладна месяц.*

*Мяне цікавіла, чаму птушка пасялілася на нашым балконе. Я вырашыў больш пільна паназіраць за ёй. Аказалася, што вясенняя госця на ніжняй паліцы драўлянай шафы звіла гняздо. А на пачатку красавіка ў ім з'явіліся два невялічкіх яйкі.*

*З таго часу я стаў клапаціцца аб птушцы. Паколькі надвор'е было не вельмі цёплае, а голуб увесь час саграваў гняздо, я сам прыносіў яму ежу. Болей за ўсё птушцы падабалася насенне сланечніка, а вось манную кашу ён чамусьці не ўпадабаў.*

*Я з нецярплівасцю чакаў, калі ж на свет з'явяцца маленькія птушаняты. Яны нарадзіліся якраз на свята Дабравешчанне, 7 красавіка. Галубяткі жоўценькія, і таму падобны на куранятак і на веснавое сонейка.*

**Аляксей Плятнёў, г. Віцебск.**

# МАЁ ЖЫВОЕ ШЧАСЦЕ

У мяне дома жыве хамячок па мянушцы Чычык. Ён маленькі, сантыметраў дзесяць, і вельмі цікавы. Поўсць у хамячка трохкаляровая: галоўка рыжанькая, а сам беленькі з чорнымі плямкамі. Ці ведаеце вы, што такія жывёлы прыносяць шчасце? Дык вось, у маёй хаце жыве шчасце з вялікімі вушкамі і вочкамі-пацеркамі.

Аднойчы я ўзяла Чычыка пагуляць, але яму гэта не спадабалася, і ён укусіў мяне за палец. Ад нечаканасці я выпусціла яго з рук на падлогу. Чычык хуценька пабег і схаваўся пад шафай. Чым толькі мы яго не выманьвалі: насеннем сланечніка, хлебам — але ён не выходзіў. І толькі калі ўсё сціхла, хамяк з'явіўся. Тут мы яго і злавілі. На гэтым яго вандроўка была скончана.

***Кацярына Мажайская, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# КОШКА СЕРАФІМА



У маёй цёткі жыве кошка. Яе завуць Сіма. Яна вельмі прыгожая і загадкавая, таму я хачу расказаць вам пра яе падрабязна.

Сіма не малая і не вялікая. Яна важыць чатыры кілаграмы. У яе карычневая поўсць з чорнымі плямкамі на лапках і мордачцы. Кошка сіямскай пароды. Цётка мне казала, што каты гэтай пароды родам з Сіямаў. Аднойчы кароль Сіямаў падарыў на памяць брытанскаму консулу такога ката. Такім чынам яны і трапілі ў Еўропу. Вусы ў Сімы заўсёды прыўзнятыя ўверх, і яна прыслухоўваецца да кожнага шораха. Вочы ў кошкі блакітныя і свецяцца ўначы. А нос у яе цёмна-ружовы. Калі Сіма хварэе, то нос цёплы, а калі здаровая — халодны.

Неяк перад навагоднімі святамі адбылося наступнае. Мы пайшлі на навагоднюю прадстаўленне, а Сіма засталася дома адна. Яна залезла ў лядоўню, і дзверка за ёй зачынілася. Мы прыйшлі дамоў і здзівіліся, што кошка нас не сустракае. Тут я зразумеў, што нешта не так. Хуценька агледзіў усе яе хованкі, але Сімы нідзе не было. І толькі раніцай я знайшоў яе ў лядоўні. Там было ўсе параскідана, а сама кошка ляжала на паліцы. Я вырашыў аднесці яе да ветэрынара. Пасля гэтага здарэння ў яе балела лапа, і жывёла не магла хадзіць.

Цяпер Сіма не лазіць у лядоўню. Я вельмі люблю гэту кошку. Сіма — самая лепшая кошка ва ўсім свеце.

***Віктар Сенчуроў, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# ПАПАЦЕЙ, ГРАМАЦЕЙ!



Запрашаем усіх аматараў рэбусаў і крыжаванак далучыцца да падрыхтоўкі папулярнай старонкі "ПАПАЦЕЙ, ГРАМАЦЕЙ!".

А зараз "папацейце" над заданнямі ***Таццяны Арціш***, якая жыве ў горадзе Масты, што ў Гродзенскай вобласці.

***Плёну!***



1 Г1А

2 АЧ Р

3 У

4 ЛЯ

5 УЪ

6 Ь=Я

7 ЦЬ ЗА

8 ЎК

9 Я+

10 ВА ЛЁК

11 Н=М Р+1+а

12 А ЛІЗ

13 У Р=В

14

## Смяшынкі

Хлопчык размаўляе з жанчынай:

— Мама, чаму ў школе ўсе мне кажуць, што я вельмі няўважлівы?

— Хлопчык, ты ж з суседняй кватэры ...

***Л. Ваўрэнюк, в. Воўчын, Камянецкі р-н, Брэсцкая вобл.***

## Смяшынкі

Прыходзіць хлопчык да дзяўчынкі ў госці і кажа:

— Я цябе кахаю!

А яна яму ў адказ:

— Я таксама сябе кахаю!

***Рагнеда Купава, г. Мінск.***




**Па гарызанталі:**
1. Дзікі конь;
2. Малпа;
3. Прадмет спартыўнай формы;
4. Вежа з сігнальнымі агнямі;
5. Месяц года;
6. Займеннік;
7. Задуманая літара.



**Па вертыкалі:**
1. Марка аўтамабіля;
2. Від мастацтва;
3. Посуд;
4. Насякомае;
5. Спартыўны інвентар;
6. Нота;
7. Задуманая літара.

**Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №4:**

№1 Бог, Сінай, запавет, воблака, воля, Майсей, гара, наказы.

№3 "Іду падрыхтаваць вам месца."


Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.

*Кошт газеты ў падпісцы — 212 рублёў за нумар.*

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.

Замова 23. Наклад 1000 асобнікаў. Падпісана да друку 07. 05. 2003г. а 17.00.



***Адрас рэдакцыі:***
213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
Тэл. 8-(02233)-5-09-59
E-mail: nescerka@hotbox.ru